 


# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 2 (1704) ГОД XXXIV БЕЛАСТОК, 8 СТУДЗЕНЯ 1989 г. ЦАНА 20 зл.




ЗІМОВЫ ПЕЙЗАЖ. Фота Я. Цялушэцкага.

## ЯК НА БЕЛАРУСІ З „КАЗОЙ" ХАДЗІЛІ



Святочная абраднасць на Беларусі ўключала калядаванне — народны традыцыйны звычай абходу хат з выкананнем велічальных калядных песень, тэатралізаваных сцэнак з пераапрананнем у „казу", „мядзведзя", „кабылу", „жорава". У аснове ўсяго гэтага ляжыць старажытная аграрная абраднасць, агульным прызначэннем якой было паскарэнне надыходу цяпла (згодна з народным выразам „ад каляд сонца паварочвае на лета") і забеспячэнне добрага ўраджаю ў новым гаспадарчым годзе пры дапамозе магічных дзеянняў. Для прыкладу возьмем абрад ваджэння „казы". „Казу рабілі наступным чынам: кажух, вывернуты поўсцю наверх, надзявалі адным рукавом на канец дугі, якая ставілася выгнутасцю ўніз. Рукаў завязвалі, ён служыў „шыяй" і „галавой", да якой прымацоўвалі „рогі" з саломы. Да другога канца дугі прывязвалі „хвост", таксама з саломы. Хлопца падбіралі звычайна невысокага росту і здатнага да танцаў. Ён залазіў пад кажух і выконваў ролю „казы". Другі хлопец высокага росту, які ўмеў складна гаварыць, выступаў за павадыра („дзеда"). Яго апраналі ў вывернуты кажух, рабілі горб на спіне, надзявалі маску, прывешвалі ільняную бараду, у адну руку давалі табакерку, у другую — доўгі кій. Павінна была быць і „маладзіца". Для гэтай ролі падбіралі шчуплага хлопца, апраналі яго ў дзявочае адзенне і падмазвалі сажай бровы. У кампаніі каляднікаў павінны былі быць яшчэ „цыган", механоша і музыка.

Падышоўшы да двара, павадыр пасылаў гаваркога хлопца да гаспадара прасіцца ў хату. Хлопец вітаўся, а пасля гаварыў:

— Іду ад пана нашага. Ідучы пытаю, што сказаці маю свайму пану Году, што носіць бароду, шыроку, як лапату, сіву і касмату. Ці шырокі лавы, каб нам паляжаці? Ці добра гаспадыня, каб нас частаваці?

— Адкуль вы?

— Мы людзі не простыя, з далёкага краю, хлопцы ўсе сталыя, з-пад самага раю.

— Адкуль ідзеце?

— Ідзём кругом света, аж ад пана Лета. Мы к лету ідзём, казу вядзём і радасць нясём.

— Дык просім у хату.

Першым уваходзіў павадыр, вёў за сабой „казу", пасля — „цыган" з „маладзіцай", музыка, механоша і ўся „світа". „Каза" станавілася пасярод хаты, пры ёй павадыр і „цыган" з „маладзіцай", астатнія стаялі ў парозе. Пахваліўшы гаспадароў, павадыр пачынаў муштраваць кіем „казу", а пеўчыя пачыналі спяваць:

Го-го-го, каза,
Го-го, шэрая!
Нут-каза, козачка,
Расхадзіся-тка
Па ўсяму двару
Гаспадарскаму...

Музыка падыгрываў, а „каза" дробнай ступой хадзіла то ўперад, то назад, паварочвалася то налева, то направа. У беларусаў і ў іншых земляробчых народаў „каза" ўшаноўвалася, як даўца ўраджаю:

Дзе каза ходзіць,
Там жыта родзіць,
Дзе не бывае,
Там вылягае...

(Працяг на стар. 6)

## ХРОНІКА

ЛІСТАПАД 1988 г.

12.11 — Вакальна-інструментальны калектыў „Зярняткі" са школы ў Пашкоўшчыне і тэатральны калектыў са школы ў Орлі выступалі ў Плёсках і Кнаразах.

13.11 — У Кнарыдах выступілі з канцэртам „Згодныя макі" з Райска і „Бярозкі" з Кнарыд.

15—18.11 — У Беластоку пабываў а. Уладзіслаў Чарняўскі з Вішнева (Валожынскі раён, Мінскай вобласці). Святар наведаў рэдакцыю „Нівы", а 16 лістапада паехаў у Кракаў, дзе высвяціў магілу Алеся Гаруна і пакланіўся яго таленту. А. Уладзіслаў Чарняўскі ахвяраваў 5 тыс. злотых на Беларускі музей у Гайнаўцы.

24.11 — У пачатковай школе ў Орлі адбылася ўрачыстая вечарына з удзелам беларускіх пісьменнікаў: А. Барскага, В. Шведа, Я. Чыквіна і В. Петручука.

26.11 — Харавы калектыў „Васілёчкі" выступіў з канцэртамі ў Кленіках і Тыневічах.

30.11 — У Бельскім ліцэі адбылося спатканне дэлегатаў Бельскага аддзела на XI З'езд БГКТ з вучнямі і настаўнікамі. Вучням трэціх класаў былі ўручаны членскія білеты БГКТ.

Ян Максімюк



Віншуем з Калядамі!

 




## БЕЛАРУСКІ ДРУК (І)

Зразумела, што друк як для народа, так і для нацыянальнай меншасці, з'яўляецца вельмі важным фактарам, стымулюючым вітальныя сілы кожнай чалавечай грамады. Разумеюць гэта і амерыканскія беларусы. На жаль, у мяне няма, калі так можна сказаць, гістарычнага матэрыялу, які дазволіў бы паказаць развіццё беларускага друку на Захадзе ад моманту заканчэння другой сусветнай вайны. З гэтай прычыны звярну ўвагу толькі на тое, што ў галіне беларускага друку існуе ў ЗША сёння.

Трэба адзначыць, што ўсякае друкаванае слова, звязанае з нацыянальнымі меншасцямі ў Амерыцы, мае пазадзяржаўны характар. Гэта значыць, што дзяржава не перашкаджае і не памагае друкаваць кнігі, брашуры, газеты, адозвы. Практычна гэта выглядае так: маеш грошы, каб заплаціць за паперу, фарбу і друкарню, і маеш тэкст, дык сабе друкуй. Не маеш — не друкуй. Можа хтосьці з чытачоў спытаць, колькі каштуе друк аднаго нумара газеты, або адной сярэдняй таўшчыні кніжкі. На жаль, не магу даць дакладнага адказу, бо не ведаю. Прызнаюся, што я пытаў пра гэта некаторых беларусаў, аднак не атрымаў канкрэтнага здавальняючага адказу.

Вядома толькі, што беларускі аўтар, зацікаўлены выданнем сваёй кніжкі, уваходзіць у кантакт з друкарняй, плаціць ён за выкананую работу-паслугу, забірае надрукаваныя кніжкі і пасля рассылае іх у беларускія цэнтры, у цэрквы або проста знаёмым, інфармуючы пры гэтым, што кніжка каштуе стольկі-та, а столькі долараў. Зразумела, што ў такім спосабе друку, а тым болей у метадзе распаўсюджвання кніжак ёсць нешта саматужнае, але няма іншага, больш эфектыўнага спосабу. Вядома, што ў такой сітуацыі аўтар можа моцна „пагарэць", бо адкуль вядома, што яго кніга знойдзе адпаведную колькасць пакупнікоў?! Я не маю ніякіх дадзеных і гавару тут, кіруючыся толькі інтуіцыяй, але мне здаецца, што не зраблю памылкі, калі скажу, што аўтары ў ніякім выпадку не зарабляюць на сваіх кнігах. Дай Бог, каб даход з прададзеных кніжак зраўнаважыў выдаткі, звязаныя з коштам друку. Аб ганарарах у такой сітуацыі не можа быць нават гутаркі.

Пасля сказанага мною, хтосьці можа падумаць, што выдадзеныя ў ЗША беларускімі аўтарамі кнігі вельмі прымітыўныя. Кожны, хто так думае, памыляецца. Праўда, такія кнігі, як аповесць Мрыя „Запіскі Самсона Самасуя" ці Калюгі „Нядоля Заблоцкіх" і многія іншыя, выдадзеныя досыць скромна. Аднак можна назваць надрукаваныя ў апошні час кнігі паэзіі Арсеневай „Між берагамі" або Салаўя „Выбраныя творы" ці кніга Ст. Станкевіча „Янка Купала", тэхнічны бок якіх вельмі высокі. Адносіцца гэта і да якасці паперы, і да вокладкі, і да тэхнікі друку. Высокім тэхнічным узроўнем характарызуецца і тоўсты навуковы часопіс „Запісы". Адзіная ў Амерыцы беларуская газета „Беларус" таксама выдавалася да нядаўна высокай тэхнікай. Аднак у апошні час пачала выходзіць на значна горшай паперы. Я не з'яўляюся ў гэтай галіне экспертам, але мне здаецца, што тэхнічныя ўласцівасці друку „Беларуса" не стаяць вышэй „Нівы".

Напэўна многіх чытачоў цікавіць ідэйная накіраванасць беларускай публіцыстыкі ў Амерыцы. Трэба сказаць, што публіцыстыка гэта, асабліва датычыць гэта Беларусі, мае яскравы, антысацыялістычны характар. Другая рыса беларускай перыёдыкі праяўляецца ў глыбокай яе рэлігійнасці. Трэцяя ўласцівасць заключаецца ў тым, што аўтары моцна стаяць на грунце амерыканскай рэчаіснасці і поўнасцю атаясамліваюцца з амерыканскай сістэмай. Калі, скажам, у гэтым аспекце параўнаць „Ніву" і „Беларуса", дык наш тыднёвік выклікае ўражанне газеты, поўнасцю незалежнай ад пануючай сістэмы, а „Беларус" — газеты падпарадкаванай. Парадокс тут заключаецца ў тым, што многія амерыканскія беларусы схільны, аднак, не сабе, а якраз нам прыпісваць зняволенасць дзяржавай, не заўважаючы, што гэта зняволенасць у іх большая, чым у нас. Падам канкрэтны прыклад. Многія амерыканскія беларусы абураюцца, што беларускія аўтары ў Польшчы не атрымліваюць ганарараў, але ніводзін з іх не абураецца, што беларускія пісьменнікі не атрымліваюць ганарараў у Амерыцы. Наколькі мне вядома, дык ніводзін з рэдактараў „Беларуса" таксама не атрымлівае ад дзяржавы найменшай зарплаты.

Вось так выглядае жменька інфармацый аб беларускай друкарскай справе ў Амерыцы. Хачу яшчэ дабавіць, што муж нашай зямлячкі Веры Младзяноўскай з Кляшчэляў — Мікола П. мае ў сваім доме друкарню, у якой друкуе беларускія кнігі, выдае ўласны часопіс „Беларускі свет" на вельмі высокім тэхнічным узроўні.

З навінак варта сказаць аб тым, што амерыканскія беларусы рыхтуюць да друку вельмі салідны том паэзіі Язэпа Пушчы. Ці мае гэта сэнс — не ведаю, бо наколькі мне вядома, у Мінску выйдзе двухтомнік гэтага паэта, у які ўвойдуць усе тыя творы, якія не друкаваліся на працягу шасцідзесяці гадоў.

**Алесь Барскі**

## ЦІКАВАЕ СПАТКАННЕ

Нездарма зала клуба БГКТ у Варшаве запоўнілася (пераважна моладдзю) 7 снежня 1988 г., з нагоды спаткання з Анатолем Вярцінскім — галоўным рэдактарам „Літаратуры і Мастацтва", вядомым паэтам і грамадскім дзеячом.

А. Вярцінскі ахарактарызаваў прынцыпы савецкай перабудовы, а ў прыватнасці і беларускага адраджэнскага руху. Галоўнымі напрамкамі гэтага руху зараз з'яўляецца: вывесці з заняпаду родную мову, вярнуць ёй належнае месца ў жыцці народа і рэспублікі, адбудаваць беларускае школьніцтва, стварыць дакументы па развіццю народнай асветы ў будучым, дачакацца стабільнасці ўмоў культурнага і грамадскага жыцця.

У адносінах да мінулага ідуць патрабаванні ўшанавання памяці загінуўшых, названня імёнаў рэпрэсіраваных, устанаўлення часу і месца іх гібелі, выяўлення віноўнікаў тых ахвяраў.

Вядома і тое, што адраджэнскі рух на Беларусі, як і цэлая перабудова, мае сваіх ярых заканспіраваных ці яўных праціўнікаў — абаронцаў сваіх прывілеяў, сталінскага дагматычна-бюракратычнага ладу з яго драконскімі метадамі.

Вядучая роля ў адраджэнскім руху прыпадае, зразумела, творчай інтэлігенцыі і моладзі, што дзейнічае пераважна ў нефармальных, але не забароненых дзяржаўнымі ўладамі згуртаваннях: „Талака", „Тутэйшыя", „Спадчына", ці „Мартыралог Беларусі" (апошняе створана 19 верасня 1988 г. на сходзе, які адкрыў Васіль Быкаў).

Не абыходзіцца, ясна, без нападкаў на прагрэсіўных дзеячоў, у асаблівасці на Быкава, Адамовіча, „ЛіМ".

На пазітыўную, паводле А. Вярцінскага, ацэнку заслугоўвае факт прызнання кіраўнічымі органамі Рэспублікі мэтазгоднасці рэнесансу беларускай мовы і дзяржаўнасці яе, што выявілася ў цэладзённай гутарцы Прэзідыума Саюза беларускіх пісьменнікаў з прадстаўнікамі Цэнтральнага камітэта Камуністычнай партыі Беларусі.

З праведзенай у варшаўскім клубе гутаркі насоўваюцца рэфлексіі аб драматычных умовах гістарычнага працэсу развіцця беларускай культуры ў абліччы факту, што кожны з перыядаў беларускага адраджэння (у мінулым і сёння) пачынаецца змаганнем за элементарнае права беларускай мовы на беларускай зямлі, сярод беларускага народа.

Заканчэнне спаткання з Анатолем Вярцінскім мела паэтычны характар. Па просьбе прысутных прачытаў ён некалькі вельмі цікавых у сэнсе глыбіні думкі і арыгінальнасці формы вершаў, асабліва: „Сустрэча з Яўгеніяй Янішчыц" (трагічна загінуўшай паэтэсай), „Не дражніце гусей" (сатыра на прамінентаў), „Рэквіем па загубленых любоўях", „Думка пра гару", „Спачыванне на лаўрах", „З'яўленне", „Успаміны", „Высокае неба ідэала".

Такім вось прыемным акцэнтам, ды абдараваннем госця букетам кветак закончылася гэта нештадзённае спатканне.

**Янка Жамойцін**

# ЗВАРОТ

## ГРАМАДСКАГА КАМІТЭТА ПАБУДОВЫ МУЗЕЯ ПОМНІКАЎ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ І РЭВАЛЮЦЫЙНАГА РУХУ Ў ГАЙНАЎЦЫ.

Беласточчына гэта унікальны рэгіён у Польшчы. Тут ад стагоддзяў жывуць сумесна палякі і беларусы, нацыі, якія маюць многа супольнага ў сваёй гісторыі і культурнай традыцыі. Захаванне культурных здабыткаў рэгіёна павінна стаць супольным клопатам палякаў і беларусаў. Наступаючая асіміляцыя і бязлюднасць на вёсках спрыяе заніканню непаўторнага ў агульнадзяржаўным культурным краявідзе беларускага фактара. З памяці сучасных і будучых пакаленняў можа быць вымазана культурная спадчына нашых продкаў.

Каб прадухіліць такую непапраўную страту, у 1984 г. створана таварыства — Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху (ГКПМПБКіРР) у Гайнаўцы. Камітэт быў зарэгістраваны 20 чэрвеня 1984 г. у Ваяводскай управе як самастойнае таварыства. Мэтай камітэта з'яўляецца пабудова і арганізацыя музея ў Гайнаўцы, які ўвекавечыць культурныя дасягненні беларускай нацыянальнай меншасці і традыцыі рэвалюцыйнага руху на Беласточчыне. Пабудова Музея вядзецца грамадскімі намаганнямі пры фінансавай дапамозе членаў Камітэта, паасобных грамадзян з краіны і з-за мяжы, а таксама розных грамадскіх устаноў, заводаў і прадпрыемстваў. Дагэтуль адаптавалі і мадэрнізавалі будынак велічынёю ў 900 кв. метраў, дзе ў першым паўгоддзі 1989 г. будзе адкрыта частка Музея.

Пабудова каштавала ўжо 50 млн. злотых, з чаго грамадскія пачыны і фінансавыя ўзносы склалі 30 млн. злотых. Далейшы поспех пабудовы Музея і яго арганізацыі абумоўлены колькасцю сабраных грошай, лікам экспанатаў і вартасцю грамадскіх пачынаў.

Камітэт звяртаецца з гарачым заклікам да грамадства Беласточчыны і суседніх ваяводстваў, да прыватных асоб і ўстаноў з усяе краіны і з-за мяжы далей дапамагаць фінансава ў ажыццяўленні гэтай высакароднай ідэі. Грошы можна пераводзіць на рахунак ГКПМПБКіРР:

— № 905217-1922-132-3, Bank Spółdzielczy w Hajnówce (у злотых),

— № 5021-24325-151-6787, Oddział Okręgowy NBP w Białymstoku (у валюце заходніх краін),

— № 5021-24325-151-77871, Oddział Okręgowy NBP w Białymstoku (у рублях).

Грамадскі камітэт пабудовы Музея выказвае сардэчную падзяку ўсім ахвяравальнікам і горача заклікае да далейшай дапамогі.

**Намеснік старшыні**
**У. Пятрочук**

**Старшыня**
**К. Майсеня**

## БЕЛАРУСІКІ

Sałtuk Oleh, Życie literackie Witebszczyzny. Rozm. przepr. Alfred Siatecki. *Nadodrze* 1982, nr 17, s. 8.

Sałtuk Aleh, Gdy byłem mały i wesoły (w) Morze (w), Tł. z białor. Henryk Szylkin, *Nadodrze* 1983, nr 23, s. 5.

Sałtuk Aleh, W ojczyźnie mojej (w), Już z kłosami nie przyjaźnią się sierpy (w), Pamięci Eudokii Łoś (w), tł. z białor. Bronisław Suzanowicz, *Nadodrze* 1984, nr 17, s. 8.

Sambuk Susanna, Politika carizma w Biełorussii wo wtoroj połowinie XIX wieka, Mińsk 1980. Rec. Groniowski Krzysztof, *Zapiski Historyczne* 1982, z. 2, s. 120.

Sawicka Irena, Sylaba białoruska, *Studia z Filologii Polskiej i Słowiańskiej* t. 11, 1972, s. 255—270, tab., wykr.

Sawicka Irena, Niektóre sposoby wyrażania nieokreśloności w gwarach białoruskich Białostocczyzny. *Studia nad gwarami Białostocczyzny* s. 43—51.

Sciacko Pawieł, Biełaruskaje narodnaje słowautwarennie, Mińsk 1977. Rec. Witkowski Wiesław, *Slavia Orientalis 1979*, nr 3, s. 355—358.

Siedow W.W., Posielenija kultury sztrichowannoj kieramiki, *Acta Universitatis Wratislaviensis 1967*, nr 56, *Studia Archeologiczne* t. 2, s. 177—195, tab., mapa, res.

Sielicki Franciszek, Uwagi na marginesie słownika wschodniej Mohylowszczyzny Iwana Bialkiewicza, *Slavia Orientalis* 1971, nr 4, s. 445—451.

Sielicki Franciszek, Białoruskie obrzędy i pieśni weselne ze wsi Mikulino byłej gminy Dołhinów, pow. wilejskiego, *Acta Universitatis Wratislaviensis no 472 Slavia Wratislaviensia* 1979, t. 18, s. 111—114, nuty.

Sielicki Franciszek, Białoruskie ludowe pieśni biesiadno-rodzinne ze wsi Mikulino, gm. Dołhinów byłego powiatu wilejskiego, *Lud* t. 63, 1979, s. 195—214, sum.

Sielicki Franciszek, Ballada białoruska o córce-kukułce jako obrzędowa pieśń zapustna, *Studia Polono-Slavica-Orientalia. Acta Litteraria* 1980, nr 6, s. 7—25, nuty.

Sielicki Franciszek, Białoruskie ludowe pieśni miłosne z b. powiatu wilejskiego, *Studia Polono-Slavica-Orientalia. Acta Litteraria* 1981, t. 7, s. 113—140.

Sielicki Franciszek, Doroczne pieśni obrzędowo-religijne śpiewane w okresie międzywojennym w b. powiecie wilejskim, *Studia Polono-Slavica-Orientalia. Acta Litteraria* 1981, t. 7, s. 93—112.

Sielicki Franciszek, Białoruskie ballady i pieśni obyczajowo-rodzinne śpiewane na zapustnej huśtawce, *Studia Polono-Slavica-Orientalia. Acta Litteraria* 1981, t. 7, s. 75—92, nuty.

Sielicki Franciszek, Białoruskie pieśni żniwne i polowe z okolic wsi Mikulino byłej gminy Dołhinów, powiatu wilejskiego, *Lud* t. 66, 1982, s. 243—254.

Sielicki Franciszek, Folklor białoruski, Wrocław 1983.

Sielicki Franciszek, Z pogranicza polsko-białoruskiego. Piosenki szkolne na Wileńszczyźnie w okresie międzywojennym (klasa 1—4), *Zeszyty Naukowe KUL* 1983, nr 2, 67—87.

Sielicki Franciszek, Anegdoty o chłopach w byłym powięcie wilejskim, *Slavia Orientalis* 1984, nr 3/4, s. 513—517.

Sielicki Franciszek, Baśnie na Wilejszczyźnie w okresie międzywojennym, *Studio Polono-Slavica-Orientalia. Acta Litteraria* 1985, t. 9, s. 45—161.

Sielicki Franciszek, Ziemia wilejska w okresie międzywojennym. *Acta Uniwersitatis nr 784 Slavia Wratislawiensia* 1985, t. 36, s. 77—101.

P.C.






*Цялушкі, гм. Нарва. Мал. У. Петрука*

## ЧЫМ БЕЛАВЕЖА НАТХНУЛА МАСТАКОЎ

Міжнародны жывапісны пленер, які штогод (пачынаючы ад 1965 г.) арганізоўваецца ў Белавежы, у апошні час пачынае перажываць нейкія клопаты. Вось, сёлета арганізатары скарацілі яго да 20 дзён (1—20 кастрычніка). Запрасілі таксама толькі 17 мастакоў, а бывалі ж гады, калі іх прыязджала ў Белавежу каля 30-ці. З фінансавымі справамі, вядома, трэба лічыцца. Але, каб мастак мог штосьці сэнсоўнае намаляваць, павінен мець час. А так прыедзе ён у Белавежу, пакуль з ёй пазнаёміцца, „перажуе" яе, на маляванне астаецца яму дзеньдва, не больш.

— Асабліва датычыць гэта, — гаворыць нам камісар пленеру, Вікторыя Талочка-Тур, — асоб, якія ніколі раней у Белавежы не бывалі. Верце мне, — працягвае яна, — чалавек у сутыкненні з белавежскай прыродай перажывае шок. Ён з ёй абавязкова мусіць асвоіцца, а час жа цячэ. Нічога тады дзіўнага, што некаторыя мастакі не паспелі закончыць сваіх прац — напр. Веслаў Юркоўскі з Беластока ці Анна Гвязда з Гданьска.

Пасля заканчэння пленеру (ужо 23-га па чарзе) у памяшканнях Прыродазнаўчага музея ў Белавежы адбылася выстаўка прац, якая працягвалася да палловы лістапада 1988 г. Паказана на ёй 49 палоцен 16-ці аўтараў. Семнаццаты аўтар — В. Юркоўскі паказваў свае працы на выстаўцы ў Беластоку ў снежні мінулага года.

Тэматыка сёлетніх карцін разнародная, хаця кідаецца ў вочы перавага пейзажу. Відаць, зрабіла ўплыў тут тое, што праз цэлы пленер стаяла цёплае, сонечнае надвор'е. Большасць пейзажаў мастакі адлюстравалі рэалістычна, у некаторыя ўкрадваюцца элементы сімвалічныя (напрыклад, чэрапы, завешаныя на павуціне — палатно А. Гвязды), а ўжо Сяргей Асапрылка з Гродна зусім павёў нас у чыстую абстракцыю. Яго „пейзажы" гэта збор колераў, якія мастак, як сам мне прызнаўся, убачыў у Белавежы. Другі беларускі мастак, Вечаслаў Захарынскі з Мінска, цалкам аддаўся тэме рэлігійна-містычнай. Яго „Успение" і „Грешник" (толькі чаму загалоўкі напісаў не па-беларуску?) прыцягвае зрок і прымушае да сузірання. Літовец, Вітаўтас Эігірдас з Каўнаса, зарэкамендаваўся як аўтар змрочных у колерах і настрої краявідаў. Крыху больш яснымі колерамі аперыраваў балгарын Нэдэльчо Кучкоў з Гаскова, але яго кампазіцыі надта герметычныя, мала зразумелыя для звычайнага гледача.

З прац польскіх мастакоў найбольш могуць падабацца партрэты жанчын (але не белавежскіх!), намаляваных Антонім

## ПІЛЬНЫЯ СПРАВЫ ШКОЛЫ

**(На прыкладзе Нараўчанскай гміны)**

Чарговы журналісцкі выезд у аколіцы Нараўкі прынёс прыемную нечаканасць. Заехаўшы ў гміну, мы трапілі проста на нараду дырэктараў школ у гміннага інспектара Марыі Буйко. Прысутнічалі дырэктары або намеснікі дырэктараў са школ у Нараўцы, Семяноўцы, Старым Ляўкове, Ляшуках і з двух прадшколляў.

Марыя Буйко, настаўніца з 19-гадовай практыкай у вясковай школе, была назначана інспектарам асветы два гады таму назад. І як лавіна, на яе рушылі школьныя праблемы, не толькі асветнага і выхаваўчага характару, але, і можа перш за ўсё, беручы пад увагу іх пільнасць і неадкладнасць, — будаўнічыя справы. На першым плане стаў капітальны рамонт школы ў Семяноўцы. Жыхары вёскі чакалі паляпшэння ўмоў вучобы дзяцей вельмі доўга, і вось нарэшце ў канцы ліпеня 1987 года пачалі купляць за сабраныя грошы будаўнічыя матэрыялы. Мінуў з таго часу год, і ўжо вырас побач са старым будынкам, як прыбудоўка, вялікі дом, у якім будзе знаходзіцца сталоўка, кухня, школьныя санітарыяты, кацельня для ўсяго школьнага комплексу. Будаваць можна было б нават хутчэй, каб прасцей было з дастаўкай патрэбных будаўнічых матэрыялаў.

Чакае сваёй чаргі і старая школа ў самой Нараўцы — цесны і стары будынак без цэнтральнага абагравання і санітарыятаў. Пакуль што ў планы пабудову новай школы ўвесці не ўдалося. Але ўжо існуе грамадскі камітэт, збіраючца грошы, і ад актыўнасці бацькоў і ўсіх жыхароў мястэчка залежыць будзе, як хутка ўдасца змясціць пабудову школы ў Нараўцы ў агульнаваяводскі план грамадскага чыну дапамогі школе.

Прыгожа адрамантаваны і ўпарадкаваны школьны будынак у Ляшуках.

Не так даўно закончыўся капітальны рамонт, а фактычна пабудова новай школы ў Старым Ляўкове.

У самой жа Нараўцы, не менш, а можа і яшчэ больш, чым школа, патрэбна новае прадшколле. Будаваць яго таксама будуць жыхары грамадскім чынам. Гміна мае надзею на дапамогу не толькі саміх жыхароў, але і мясцовых прадпрыемстваў.

Вялікай увагі інспектара і дырэктараў школ патрабуе давоз дзяцей у школы з навакольных вёсак. Напрыклад, у адной толькі Нараўцы на 350 вучняў даязджае ў школу аж 164, у Семяноўцы — 25, у Ляшуках — 20 і г.д. У гміне ёсць школьны аўтобус са штатным шафёрам, які штодзень робіць па тры курсы, а ў ваколіцах Семяноўкі ездзіць наняты „асінобус".

Дырэктары, як штомесяц, абмяркоўвалі на нарадзе свае педагагічныя, выхаваўчыя, прафсаюзныя і іншыя справы, а мне было прыемна даведацца, што вельмі добра ў гміне арганіза-

# ЗОРКА
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

**УСІМ ДЗЕЦЯМ І ІХ БАЦЬКАМ, УСІМ ЧЫТАЧАМ „ЗОРКІ“, — НАЙЛЕПШЫЯ СВЯТОЧНЫЯ І НАВАГОДНІЯ ПАЖАДАННІ СКЛАДАЕ**

**„ЗОРКА“**

## КАЛЯДНІКІ

З васьмікутнаю звяздою
Дзеці цэлаю гурбою
Выйшлі сёння на мароз.
З канца вёскі, на змярканні,
Пачалі калядаванне:
Нарадзіўся нам Хрыстос!

Ад хаціны да хаціны,
Да гаспадароў гасцінных,
З каляроваю звяздой,
Ходзяць радасныя дзеці,
Пад акенцам звязда свеціць,
Так прыгожа, Божа мой!

Цешыць сёння ўсё Падлессе
Прыгажосць калядных песень,
Той адвечны наш абрад.
Таму радуе заўсёды
Сэрца нашага народа
Свята слаўнае Каляд.

Праспявалі пад акенцам,
Дзверы заскрыпелі ў сенцах,
На двор выйшаў гаспадар.
Ён з душэўнай асалодай
Уручае, як заўсёды,
Дзецям свой грашовы дар.

Грошыкі падзеляць дзеці,
Шчаслівейшыя на свеце,
І ласункаў купяць шмат.
Будуць жыць успамінаннем,
Іхняга калядавання,
Будуць зноў чакаць Каляд.

Віктар Швед



*Калядуюць дашоўскія „Беларусачкі“: Здымак зроблены ў час мінулагодняга конкурсу каляднікаў у Гайнаўцы. Фота У. Завадскага.*



## ЁЛКА Ў ЗБАНЕ

Дзеці! Калі здарылася так, што ў вас няма ёлкі, можаце зрабіць вось такі букецік з хваёвых галінак і цацак.

У збанок з шырокім, устойлівым дном набраць пяску, усадзіць у яго галінкі ёлкі і ўпрыгожыць цацкамі. Можна таксама зрабіць святочны строік у місцы з пяском, як бачыце гэта на малюнках.

Чароўны пах хвоі, бляск цацак стварае вельмі святочны, навагодні настрой.

## З НОВЫМ ГОДАМ!

Зіма едзе да нас шпарка
З маладзенькім Новым Годам.
Ззаду Дзед Мароз падаркі
Вязе дзецям, як заўсёды.

Наймалодшым многа цацак,
За слухмянасць бацьку, маці,
Каб было чым забаўляцца
У час зімні ў цёплай хаце.

А старэйшым вязе ў школы
Усялякіх шмат ацэнак,
Каб разумнай і вясёлай
Новая расла нам змена.

Хто чытае „Ніву“, „Зорку“,
Тым, хто да навукі скоры, —
Дзед Мароз вязе пяцёркі,
Ну і крышачку чацвёрак.

Многа, многа пажаданняў
Дзед Мароз прывёз гарачых,
Каб пры новым зноў спатканні
Другагоднікаў не ўбачыў.

Каб жылі мы ў шчасці, міры,
І ў дастатку ў родным краі.
Новы Год нам шчыра, шчыра
Шмат найлепшага жадае.

Віктар Швед



## МАЛАДЫ ДУЭТ АКАРДЭАНІСТАЎ

Акардэонны дуэт беластоцкіх васьмікласнікаў Эвы Мартынюк (школа № 36) і Андрэя Янкоўскага (школа № 28) працуе ад пачатку гэтага навучальнага года пры беластоцкім аддзеле беларускага таварыства пад кіраўніцтвам Сцяпана Копы. Яны ўжо ўдзельнічалі ў двух канцэртах для дарослых і атрымалі вялікія бравы.

Праўда, Эва і Андрэй прыйшлі ўжо даволі падрыхтаванымі да свайго апекуна. Эва скончыла пачатковую музычную школу I ступені. Далей ісці вучыцца музыцы спецыяльнай ахвоты яна не мела. Але, каб не забыцца таго, што ўжо ўмее, вырашыла далей займацца ў музычным гуртку. Так яна прыйшла са сваім татам Барысам Мартынюком на рэпетыцыі ў беларускі клуб на вуліцу Варшаўскую.

Андрэй скончыў музычны гурток (агніска) № 1 у Беластоку і таксама хацеў працягваць іграць.

Дуэт ужо грае некалькі папулярных мелодый. Раней Эва і Андрэй у час сваёй вучобы гралі пераважна сур'ёзную музыку, якую патрабавалі ад іх настаўнікі і праграма музычнай

(Працяг на стар. 10)



*Дуэт акардэаністаў — Эва Мартынюк і Андрэй Янкоўскі з Беластока на канцэрце ў беластоцкім клубе будаўляных.*

Пятро Макаль

## ДЗЕНЬ ДОБРЫ, ТАВАРЫШ СТУДЗЕНЬ!

Студзень —
не той студзень,
што ставяць на стол часамі.
Дружыць мы са Студзенем
будзем —
вы гэта пабачыце самі...

Студзень —
самы першы
сярод братоў-месяцаў.
Яму — і песні, і вершы,
дзе ўся наша ўцеха
змесціцца.

Хоць і марозны, і колкі,
ён з намі карагодзіць
ля навагодняй ёлкі,
ёлкі —
чароўнай вясёлкі,
што ў кожны дом прыходзіць.

У бегу па лёдзе рыўкамі
нават завею суцішым:
мы на катку канькамі
вясёлую азбуку пішам...

А хто там,
паддаўшыся страху,
выгляд зрабіў горкі?
Смялей жа!
Ляці з размаху
на лыжах з высокай горкі!

На густу прыгоды здаровым,
не боязна ім і ўпасці.

(Працяг на стар. 10)

## СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

### ОЙ, У ЛЕСЕ У ГУШЧАРЫ

Словы народныя | Музыка Ігара Лучанка

**Песня-балада**

*Ой, у лесе ў гушчары калыхаліся камары.*
*Гэй, у лесе, гэй, у лесе калыхаліся камары.* } 2 разы.
*Дуб да дуба пахіліўся — камар з дуба звaліўся.*
*Аб дубовыя сукі ён пабіў сабе бакі.* } 2 разы.
*Аб дубовую карыцу пабіў сабе патыліцу.*
*Аб дубовыя карэнні ён пабіў сабе калені.* } 2 разы.
*Як даведалася муха, што ляжыць камар без духу,*
*Прыляцела ратаваць, зімнай вадой абліваць.*
*— Ой, камару, ты мой браце,*
*А чым цябе ратаваць?* } 2 разы.
*Пасылайце да аптэкі, закажыце зёлкі-лекі,*
*Закажыце зёлкі-лекі, ці не будзе трохі лепей.*
*А ў бальніцы дактары*
*Вымуць душу без пары.* } 2 разы.
*— Ой, камару, ты мой браце, а дзе ж цябе пахаваці?*
*— А схавайце мяне ў лесе пры зялёненькім арэсе.*
*Будуць арэшкі шчыпаць,*
*Камарыка ўспамінаць:*
*Ці не тое гэта цела,*
*З дуба што далоў зляцела?*
*Ці не тыя гэта косці,*
*Што ляцелі з высакосці?..*
*Ой, у лесе ў гушчары калыхаліся камары.*
*Гэй, у лесе, гэй, у лесе калыхаліся камары.* } 3 разы.

НІЎКА



— Маеш вялікія аспірацыі, але магчымасці малаватыя.

### ВЫЙДУ ЗАМУЖ...

Выкладчык тэхнікума пытае ў студэнткі:
— Як будзе будучы час ад дзеяслова „кахаю“?
— Выйду замуж, — адказала студэнтка.

### У ЛЕКАРА

Зайшоў аднойчы шавец да доктара і пачаў скардзіцца на свае хваробы.
— А што вам баліць? — пытаецца доктар.
— Усё баліць. Вочы быццам клеем памазаны, язык стаў як падэшва, у горле не інакш, як цвікі забіты, у жываце быццам дратваю сцягнута, у вушах, як хто шылам пора, ды і ўсяго быццам на капыл нацягнулі!

### ЗА САЛДАТА...

— Мама, я цвёрда вырашыла выйсці замуж толькі за салдата: ён умее шыць, цыраваць, мыць і, галоўнае, беззаганна выконваць загады.

### У СВЕЦЕ МУДРЫХ ДУМАК

*Жонка — не палюбоўніца, а друг і спадарожнік нашага жыцця, і мы загадзя павінны прывучыцца да думкі, што трэба яе любіць і тады, калі яна будзе пажылою жанчынаю, і тады, калі будзе яна бабулькаю.*

*Вісарыён Бялінскі (1811—1848), літаратурны крытык, філосаф.*



**Пачніце ўсім гаварыць праўду ў вочы — колькі новага даведаецеся аб сабе!**

### ВЫХАД З КРЫТЫЧНАГА СТАНОВІШЧА

А: Праходзьце, калі ласка!
Б: Толькі пасля вас! Зрабіце ласку.
А: Дзякую, але я тут у хаце.
Б: Я таксама. Прашу, вы спяшаліся. Так, я выклікаў пажарнікаў. Ды і вы імчаліся як угарэлы.
А: Я бегаў па лякарства для жонкі. І ўсё-такі праходзьце першым!
Б: Ні ў якім выпадку! У мяне толькі гарыць кватэра, у той час, калі вашая жонка можа памерці. Прашу вас.
А: Бачыце ў не ўвайшло ў прывычку сімуляваць усе гэтыя прыступы, каб пайграць на маіх нервах. А ў вас як-ніяк гарыць кватэра. Нават сюды даносіцца пах гары. Прашу!
Б: Не, не! Агонь напэўна яшчэ не паспеў распаўсюдзіцца на ўсе пакоі. У мяне іх тры, а ў вас, я думаю, жонка адна. Прашу!
А: Новая кватэра, шаноўны, дастаецца куды цяжэй, чым новая жонка. Паспяшайцеся.
Б: І ўсё-ж-такі я гатовы вам уступіць, паколькі мая маёмасць застрахаваная.
А: Мая жонка таксама не промах — адразу пасля нашага шлюбу яна застрахавала сваё жыццё, каб магчы млець з большай упэўненасцю.
Поліс не да гэтага часу важны. І так праходзьце.
Б: Я не пайду да той пары, пакуль вы, выбачайце за нясціпласць, не адкрыеце сакрэт, на якую суму застрахавана ваша шлюбная.
А: На сто тысяч. За такую жонку сума немалая. Прашу!
Б: Нічога не зробіш, але вам усё-такі прыйдзецца ісці першым. Мая кватэра застрахаваная на сто пяцьдзесят тысяч.
А: Павінен я вам прызнацца, шаноўны, што мая жонка на свайму характару зусім не адпавядае майму ідэалу. Я ўжо гаварыў, што яна сімулюе прыступы, ды апрача таго яна безладная, неакуратная, сварлівая. І як сексуальныя партнёры мы таксама не падыходзім адзін аднаму. Калі ласка!
Б: А я павінен сказаць, што мая кватэра таксама не бог знае што. Цёмная, столі нізкія і працякаюць, аграванне дрэннае. І так, пасля вас!
А: Што ж, каб выйсці з гэтага цяжкаватага становішча, трэба знайсці найбольш адпаведнае рашэнне.
Б: У мяне яно ёсць. Я ведаю, што трэба нам зрабіць!
А: Што?
Б: Давайце пойдзем у бліжэйшую краму за гэтым вуглом. Наколькі я памятаю, там заўсёды быў у продажы ахаладжаны ветлінскі рыслінг.

Петар Грэгор (Чэхаславакія)
Пераклаў з рускай мовы М. Хмялеўскі

### КРЫЖАВАНКА

*УПОПЕРАК: 1) вучыцца ў вышэйшай навучальнай установе; 5) горад над Іртышом і Омам; 9) мроя, летуценне; 10) сотая частка якой-небудзь меры; 11) жаночае імя; 12) бацька і...; 14) для плавання на вадзе; 15) рыбіны яйкі; 17) легенда, паданне, аповесць; 19) твор даносчыка; 20) адно з пяці пачуццяў; 22) свойская птушка; 23) Уладзімір Ільіч; 24) сталіца Нарвегіі; 25) горад з Пячэрскай Лаўрай; 26) салдаты стралковага падраздзялення;*

*УНІЗ: 2) няскошанае сена; 3) блін з дранай бульбы; 4) адтуліна ў носе; 6) рэлігійная плынь у англіканскай царкве; 7) веснавы месяц; 8) тачыльны камень, брусок; 12) залоза ў глотцы; 13) націск на што-небудзь; 16) кропля расы; 17) прыхільнік садызму; 18) непрыемнае адчуванне ў роце ад чаго-небудзь кіслага; 21) адзін з відаў папараці.*

*Сярод чытачоў, якія на працягу двух тыдняў прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будзе разыграна кніжная ўзнагарода.*



— * —

Муж есць капусту, моршчыцца і гаворыць жонцы:
— Нешта ты сёння капусту нясмачную зварыла.
Жонка пакрыўдзілася:
— Кінь ты прыдзірацца, я ў гэтую капусту ўсю душу ўлажыла.
— А мяса ты палажыла?
— О, і праўдачкі, забылася.

— * —

Дзед ды баба пасварыліся і адно з другім не гавораць. Але не доўга не адзываліся да сябе, бо ў бабы цярпення не хапіла, яна і пытаецца:
— Стары, ці ты ўчора чхнуў?
— А што? — панура пытае стары.
— Будзь здароў! — ласкава кажа яна.
— Дзякую.
Гэтак і памірыліся.



Без слоў.




*Трэба выхоўваць у дзяцей любоў да людзей, а не да самога сябе. А для гэтага самым бацькам трэба любіць людзей.*